№5(26)
2001г.
травень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

***Сёння і заўсёды ў нумары:***

*Толькі арыгінальныя матэрыялы, якія напісаны спецыяльна для нашай газеты.*
*Невядомая і малавядомая інфармацыя пра мінуўшчыну і сучаснасць нашага краю.*
*Усё пра асноўныя і найбольш адметныя падзеі на Барысаўшчыне.*
***Выпісваеце і чытайце нашу газету!***

## *Ад нумара да нумара*

***Прэзентацыі***

*Прадпрыемства "140-вы рамонтны завод" прэзентавала сваю прадукцыю і шукала партнёраў на выставе "IDEX-2001", што адбылася ў Арабскіх Эміратах.*

* * *

*Барысаўскае вытворчае аб'яднанне "Экран" прыняло ўдзел у аптовай ярмарцы "Дзяржмэблгандль – 2001" і "Галантэрэя – вясна – 2001", якія адбыліся ў сярэдзіне красавіка ў Маскве.*

***Пасяўная***

*Падчас пасяўной кампаніі прадпрыемствы горада скіравалі ў гаспадаркі раёна каля ста спецыялістаў і каля пяцідзесяці адзінак тэхнікі.*

* * *

*Па рашэнню райвыканкама сярод працаўнікоў гаспадарак раёна праводзяцца спаборніцтвы па вясенне – палявых работах. Ужо названы імёны пераможцаў.*

***Юбілеі***

*Барысаўская фірма "Канстанта", якая вырабляе трыкатаж, першага траўня святкавала ў Палацы культуры свой 10-гадовы юбілей.*

***Святы***

*Першага і дзевятага траўня ў Барысаве былі праведзены святочныя мерапрыемствы.*
***(Заканчэнне на стар. 2)***

*Пра адну з тутэйшых каталіцкіх бажніц - капліцу ў Навішчына - чытайце на стар. 4*

## *Сёлета спаўняецца 195 год з моманту закладкі існуючага будынка барысаўскага касцёла*





## Апоўзень пашкодзіў лініі тэлекамунікацый

Значная аварыя лініі тэлефоннай сувязі адбылася 6 мая ў раёне вуліцы Ватуціна.

У выніку першых у гэтым годзе навальніц і лііўняў адбыўся цэлы каскад паломак і здарэнняў, якія сталі прычынай разрыву тэлефоннага кабеля.

Дажджавая вада падмыла грунт, які асеў і пахаваў пад сабою кабель на даволі значнай даўжыні. Гэтыя ж апоўзні пашкодзілі вадаправоды, і ў тэлефонную каналізацыю хлынула гарачая вада. Тыя ўчасткі кабеля, якія засталіся незаваленымі і незалітымі, пачалі есці пацукі, якіх ліўні выгналі з нор.

- Гэта аварыя – стыхійнае бедства, якое выклікала вельмі сур'ёзныя пашкоджанні.Рамонт сеткі праводзіўся ў тры этапы – кожны раз мы вымушаны былі адключаць частку абанентаў, лініі якіх былі пашкоджаны. Дарэчы, наступствы былі ліквідаваны вельмі аператыўна і, што зараз вельмі важна, абсалютна бясплатна, - кажа кіраўнік бюро рамонту тэлесетак Інна Уладзіміраўна Скляр.

Як кажуць жыхары пацярпелых дамоў, была пашкоджана лінія, на якой знаходзяцца тэлефоны ветэранаў Вялікай Айчыннай. Для старых, якія тры дні напярэдадні Дня Перамогі не маглі павіншаваць аднапалчан, гэта было вельмі недарэчы.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Горад прыгажэе

Хто з нас "добрым" словам не ўспамінаў тых будаўнікоў і кіраўнікоў, што прычыніліся да будаўніцтва мікрараёна, які месяцца каля рынка "Спатканне". Раён збудавалі, а вось замацаваць пяскі, зрабіць зручныя тратуары – забыліся. Сказаць папраўдзе, мала хто і верыў у хуткія змены.

І вось цяпер настрой гараджан змяніўся.

Поўным ходам ідуць работы па добраўпарадкаванню тэрыторыі каля рынка. Пліткай выкладваюць тратуары, завозіцца грунт, мяняюцца бардзюры. І хоць работы яшчэ не скончаны, ужо відаць, што выгляд мікрараёна зменіцца Так што можам, калі захочам!

***М.Пучыла***

## Вельмі патрэбная акцыя

Напярэдадні 900 – годдзя горада вельмі патрэбную акцыю па азеляненню праводзяць жыллёва – камунальная гаспадарка і калектывы школ. Гаспадарчая служба горада ўзяла на сябе абавязак забяспечыць неабходную колькасць саджанцаў і чарназём. З добрым настроем збіраюцца вучні школ абнавіць паркі і скверы, школьныя тэрыторыі.

***М.Пучыла***

## Новы від смецця з'явіўся ў Барысаве

Не так даўно ў двары аднаго са шматпавярховых дамоў па вуліцы Нармандыя-Нёман быў раскурочаны аўтамабіль "Масквіч". Злачынцы знялі з яго ўсе чатыры колы і разбілі лабавое шкло.

Магчыма, старэнькі "Масквіч" і да здарэння ўяўляў сабою нязначную каштоўнасць, таму гаспадар проста махнуў рукой на машыну. Недзе праз тыдзень 412-ы быў поўнай уласнасцю дваровай дзетвары і ператварыўся ў груду металалому.

Зараз кінутыя аўтамабілі можна бачыць амаль па ўсяму гораду. З большасці гэта "Запарожцы" 70-х гадоў выпуску.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Пешаходы пайшлі "на пралом"?

Па дадзеных Барысаўскага РАУС сёлета ў першым квартале было выяўлена 10021 парушэнне правілаў дарожнага руху. Летась за той самы час іх было 14037. Як бачна з дыяграм, хуткасць кіроўцы зараз перавышаюць не так часта як раней, але пешаходы і веласіпедысты становяцца ўсё менш стрыманымі.

**Асноўныя віды парушэнняў правілаў дарожнага руху за першыя кварталы 2000 і 2001 гадоў, што выяўлены Барысаўскім РАУС**




*Працягваецца падпіска на другое паўгоддзе 2001 года. Нагадваем, што падпісны індэкс нашай газеты*

**64184**

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **100** руб., на **3** месяцы - **300** руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **300** руб., на **3** месяцы - **900** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **150** руб., на **3** месяцы - **450** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **350** руб., на **3** месяцы - **1050** руб.

# Ад нумара да нумара

*(Заканчэнне, пачатак на стар. 1)*

**Мерапрыемствы**

*"Моцная сям'я – дужая дзяржава" – пад такой назвай 10 красавіка прайшло мерапрыемства, якое было прысвечана залатому вяселлю жыхароў вёскі Забалоцце Вольгі і Уладзіміра Драгуной.*

* * *

*Атрады Міністэрства па надзвычайных сітуацый і аварыйна-выратавальныя каманды адпрацоўвалі сумесныя дзеянні ва ўмовах тэхнагенных катастроф.*

**Акцыі**

*З 10 па 20 красавіка Дзяржаўная аўтамабільная інспекцыя г. Барысава праводзіла аперацыю "Хуткасць" з мэтаю папярэджання дарожна - транспартных здарэнняў, якія здараюцца з-за перавышэння хуткасці.*

* * *

*Несанкцыянаваная акцыя руху "Зубр" адбылася ў Барысаве. Моладзь патрабавала палепшыць працу грамадскага транспартуа.*

* * *

*Ля помніка воінам – інтэрнацыяналістам 29 красавіка ў Дзень памяці адбыўся мітынг і прайшла грамадзянская паніхіда.*

* * *

*Прадстаўнікі барысаўскага аддзялення "Асацыяцыі былых вязняў фашызма" ў дзень вызвалення ўсклалі вянкі да вечнага агню ля помніка загінуўшым вязням.*

**Экалогія**

*Працы па экалогіі юнакоў з Барысава ("Экалагічны маніторынг воднай сістэмы ракі Сха" і інш.), якія раней прынеслі тутэйшай камандзе першае месца ў рэспубліцы на конкурсе "БулЮнiёр – 2001", накіраваны на Міжнародныя экалагічныя конкурсы ў Польшчу і ЗША.*

**Фестывалі**

*З 1 па 30 красавіка ў Барысаве праводзіўся фестываль творчасці для дзяцей з асаблівасцямі развіцця. Ён быў арганізаваны па ініцыятыве барысаўскай асацыяцыі інвалідаў "Дапамога".*

* * *

*У траўні плануецца распачаць другі рэгіянальны фестываль "Мядоцкі край і яго таленты". Арганізатар мерапрыемства – аддзел культуры райвыканкама, – праводзіць яго ў рамках доўгатэрміновай праграмы "Традыцыйная культура: адраджэнне, развіццё, пераемнасць".*

* * *

*У траўні ў кінатэатрах горада распачаць паказ фільмаў – лаўрэатаў прэміі "Оскар".*

**Конкурсы**

*Барысаўскі камітэт БПСМ праводзіць конкурс "Лепшы пад'езд".*

* * *

*Конкурс мастацкай самадзейнасці навучальных установ адбыўся 12 красавіка ў памяшканні ПТВ – 205.*

* * *

*Прагляд – конкурс хароў прайшоў у Палацы культуры. Падцвердзілі ўзровень свайго майстэрства хары "Равеснік", "Чароўнасць" і інш.*

**Выставы**

*У Цэнтральнай бібліятэцы адбылася выстава "Сучасны абраз". Яна была арганізавана аддзелам іканапісу і традыцыйных рамёсел Палаца культуры.*

* * *

*Выстава кошак, якая была арганізавана клубам "Арцём", мела месца 30 красавіка ў памяшканні зімовага клуба гарадскога парка.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***



Барысаў сёння. Вуліца Трусава

# Віншуем пераможцаў!

*Наша газета заўсёды ўдзяляла належную ўвагу дасягненням барысаўскіх школьнікаў. Таму і ў гэтым нумары мы рады магчымасці павіншаваць настаўнікаў і вучняў школ горада, якія дасягнулі паспеху на рэспубліканскіх алімпіядах па вучэбных прадметах.*

Віншуем настаўнікаў, якія падрыхтавалі пераможцаў:

Жалязнову А.В., гімн.№1, руская мова
Дзямідка Л.Р., гімн.№1, французская мова
Іода Г.Г., гімн.№1, гісторыя
Валынца Я.Я., гімн..№1, фізіка
Луцкевіча Ю.Г., гімн. №1, інфарматыка
Шумко Г.К., п/ліцэй, біялогія
Янчыка М.К., п/ліцэй, фізіка
Расвяталаву Л.В., СШ №15, англійская мова
Вараб'ёву С.Г., СШ №15, руская мова
Янчык Л.М., СШ №17, іспанская мова
Дзятлаву А.А., СШ №17, іспанская мова
Клыбіка І.М., СШ №16, фізіка

Віншуем вучняў, атрымаўшых дыпломы:

Галушка Н., 10кл., гімн.№1, руская мова. Дыплом II ст.
Санду І., 10кл., гімн.№1, руская мова. Дыплом II ст.
Вячэрскі А., 10кл., гімн.№1, французская мова. Дыплом I ст.
Якімовіч А., 9кл., гімн.№1, фізіка. Дыплом III ст.
Зяцікаў А., 9кл.,гімн.№1, гісторыя. Дыплом Iст.
Кароўкін П., 10кл., гімн.№1, інфарматыка. Дыплом III ст.
Ставер В., 10кл., СШ №17, геаграфія. Дыплом I ст.
Шыцікаў К., 10кл., СШ №17, геаграфія. Дыплом I ст.
Каваленя М., 11кл., СШ №17, іспанская мова. Дыплом I ст.
Салаўёва Д., 11кл., СШ №17, іспанская мова. Дыплом I ст.
Клімовіч К., 10кл., СШ №17, іспанская мова. Дыплом II ст.
Жаркевіч І., 10кл., СШ №15, руская мова. Дыплом III ст.
Вашкевіч А., 10кл., СШ №15, англійская мова. Дыплом I ст.
Цэхавы Я., 9кл., п/ліцэй, фізіка. Дыплом II ст.
Лыскавец М., 9кл., п/ліцэй, біялогія. Дыплом I ст.
Цішкіна Т., 11кл., СШ №16, астраномія. Дыплом III ст.

***М.Пучыла***

# Дарога да вёскі

У сферы транспартнага абслугоўвання насельніцтва Барысаўшчыны даўно не было чуваць добрых навін.Аднак у апошні час усё ж абазначылася маленькая надзея на лепшае. Справа ў тым, што Барысаўскі аўтарамонтны завод пачаў рамантаваць аўтобусы марак "ЛАЗ" і "Ікарус", тым самым дапамагаючы хоць крыху абнавіцца састарэламу парку машын.

З наступленнем дачнага сезона, як вядома, абвастраецца праблема прыгарадных транспартных зносін. На сённяшні дзень 38 прыгарадных маршрутаў абслугоўваюць каля сямі дзесяткаў аўтобусаў. А абставіны тым часам патрабуюць адкрыцця новых летніх маршрутаў. Адміністрацыя аўтапарка №3, хоць і далёка не ва ўсіх выпадках, але ўсё ж ідзе насустрач пажаданням пасажыраў. Вось і зараз адкрыты два новыя маршруты: "Барысаў – Хацюхова" і "Барысаў – Крацэвічы".

***А.Турко***

# Малюнак з "баевіка"

"Зграі здзічэлых сабак бегаюць па горадзе ў пошуках ежы, наводзячы страх на гараджан". Менавіта так мог бы пачынацца той ці іншы "баявік", якіх так многа цяпер на экранах нашых тэлевізараў.

А між тым, гэта малюнак з нашага жыцця. Ніводная тыднёвая статыстыка барысаўскіх газет на абыходзіцца без лічбаў, якія паказваюць пакусаных сабакамі.

Сабакі папрашайнічаюць на аўтобусных прыпынках. Сабакі скакаюць у школьных дварах, пакуль дзеці са сталоўкі вынесуць штосьці паесці. Сабачыя вясельныя карагоды нясуць пагрозу кожнаму, хто стрэнецца.

Забіваць сабак негуманна, лавіць цяжка. Але выхад трэба знайсці, магчыма, зладзіць нейкі прыёмнік, дзе іх можна было б утрымліваць – нават на грошы гараджан. Трэба разумець, што гэтую праблему стварылі мы самі.

***М.Пучыла***

# Думкі ў дарозе

Едучы з новай часткі горада ў старую – і наадварот, мы заўсёды любуемся невялікім вярбовым масіўчыкам, што прытуліўся ля завода "Агрэгатаў". Наша газета ўжо пісала пра гэтую добрую акцыю камсамольцаў сярэдзіны мінулага стагоддзя.

Але час няўмольны, а вечнага няма нічога. Мінулай зімою ЖКГ горада выразала частку вербаў, бо яны або былі зламаныя вятрамі, або пасохлі. Цяпер жа стала відавочна, што і большасць вербаў стаяць паўзасохлыя.

Было б вельмі добра, калі б недаўгавечныя вербы замянілі іншымі дрэвамі. Гэтую карысную справу маглі б узяць на сябе СШ №1 і гімназія №2.

***М.Пучыла***

## Кошка Маруся – прадстаўнік новага класа

Кашачае сямейства набыло прапіску на лесвічнай пляцоўцы шматпавярховага дома па вуліцы Ватуціна.

Кошка Маруся і яе кацяня маюць уласны ложак побач з мусаправодам і нават посуд, у які добрыя жыхары кладуць, што не шкада.

Маруся – толькі адзін прыклад у набываючай апошнім часам моц тэндэнцыі з'яўлення "паўхатніх жывёл". Па ўсяму Барысаву з'явіліся кошкі ў пад'ездах, сабакі ў будках на дварах, галубы не ў галубятнях, а на вышках. У доме насупраць Марусінага нехта трымае нават марскіх свінак у калясачнай.

Магчыма, гэта прыватныя выпадкі, але жыхары вядомых нам "дамоў з жывёламі" ставяцца да "братоў меншых" вельмі прыязна.

Так, напрыклад, суседзям Марусі вельмі падабаецца яе звычка катацца на ліфце, умение стаяць на задніх лапах і, што вельмі важна, чыстаплотнасць.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Іспанскія матывы

Не сакрэт, што міжнародныя кантакты для прадстаўнікоў розных дзелавых і гуманітарных сфераў нашага горада становяцца рэдкасцю. Аднак,усё ж здараюцца і выключэнні з правілаў.

У сярэдняй школе №17, якая спецыялізуецца на паглыбленым вывучэнні іспанскай мовы, нядаўна адбыўся рэспубліканскі семінар настаўнікаў па тэме "Сучасная іспанская лексіка". У якасці асноўных лектараў на ім выступілі прадстаўнікі Асацыяцыі выкладчыкаў іспанскай мовы Еўропы прафесар Рафаэль дэль Мараль і прафесар, паэтэса Лус дэль Ольма. Яны прыбылі ў наш горад са зваротным візітам пасля таго, як летась выкладчыкі барысаўскай СШ №17 Л.Л.Жаўняровіч, А.А.Дзятлава і Л.М.Янчык пабывалі на кангрэсе Асацыяцыі ў Іспаніі.

Тры дні працягваўся семінар, на якім беларускія настаўнікі даведаліся шмат новага і карыснага для сябе. Іспанскія вучоныя – лінгвісты чыталі лекцыі па сучаснай вуснай лексіцы, паэзіі і літаратуры ў цэлым. У вольны ад справы час іспанскія госці і ўдзельнікі семінара агледзілі горад, пабывалі ў сталічным тэатры, а таксама наведалі Мінскі лінгвістычны універсітэт.

***А.Турко***

# Рэха "Вясёлых нотак"

Агульнагарадскі конкурс калектываў мастацкай творчасці школ горада "Вясёлыя ноткі" праходзіў сёлета ў форме фестывалю. На працягу сакавіка кожная з гарадскіх школ, якія спецыялізуюцца на эстэтычным выхаванні, прадстаўляла перад абласным журы больш як гадзінныя канцэртныя праграмы. Некалькі лепшых нумароў такім чынам адбіраліся на заключны канцэрт фестывалю ў гарадскім Палацы культуры, які і адбыўся ў сярэдзіне красавіка.

Мастацкія калектывы 2-й, 20-й, 24-й, 1-й і 10-й сярэдніх школ, 1-й і 2-й гімназій, Дома дзіцячай і юнацкай творчасці ўдастоіліся гонару выступаць у заключнай праграме, якая ў сваю чаргу з'явілася "візітнай карткай" прадстаўніцтва барысаўскіх дзіцячых талентаў на рэспубліканскім тэлевізійным конкурсе "Усе мы родам з дзяцінства". Заяўкі на ўдзел у ім паступілі ў аргкамітэт тэлеконкурсу і разглядаюцца абласной камісіяй. Каму ж выпадзе шчасце прадстаўляць Барысаў у рэспубліканскім тэлеэфіры, стане вядома да канца красавіка, а ў маі адбудзецца і сам тэлеконкурс.

***А.Турко***

"АГАТА - ТУР" прапануе:
Экскурсіі па Беларусі: Полацак, Жыровіцы, Заслаўе, Мір, Нясвіж, Навагрудак, Гродня і інш.
Адпачынак: Егіпет, аўтобусныя туры ў Еўропу.
Варшава, Вільнюс на адзін дзень.
С.Пецярбург па чыгунцы.
Недарагі адпачынак у Крыме і ў Адэскай вобласці.
Візы ў Літву.
Тэл. 6-45-16
Ліц. № 226 МСіТ РБ (25.10.2000 – 25.10.2005)

Магазін АЛЬТАІР
Чакаем вас з $8^{00}$ да $18^{00}$
У суботу з $8^{00}$ да $18^{00}$
Выхадны - нядзеля
Вул. Дзёміна, 2. Тэл. 3-51-43, 6-61-74 (пасля $18^{00}$)
Вы збіраецеся будаваць або рабіць рамонт – Мы Вам дапаможам!
цэмент, цэгла, шыфер, плітка, абліцовачныя блокі, сілікатныя блокі, рубероід, шпалеры,
лакі, шпаклёўка, фарбы, плёнка поліэтыленавая, гіпса–картон, пенапласт, мінеральная вата,
паганажныя вырабы, сантэхнічнае абсталяванне, ДВП, ДСП і іншыя будаўнічыя матэрыялы
Тавар сертыфіцыраваны
Ліц. БГІ 401 (27.05.99 – 27.05.04)

# 900-годдзе набліжаецца. Пачаўся "хапун". Інфармацыйны

*З набліжэннем 900 – годдзя Барысава значна павялічыўся попыт на тутэйшую гістарычную і краязнаўчую інфармацыю. І гэта цудоўна.*

Нават далёкае па зместу сваіх праграм ад тутэйшай культурнай спадчыны барысаўскае тэлебачанне (12 канал) увяло спецыяльную рубрыку "пещинки времени", дзе знаёміць сваіх гледачоў са старымі мясцінамі горада і яго наваколля. Гэта, безумоўна, патрэбная рэч, і ўсім, хто не рыхтуе, хацелася б выказаць дзякуй.

Прыемна адзначыць, што пры падрыхтоўцы вышэй названай праграмы шырока выкарыстоўваюцца матэрыялы газеты "Гоман Барысаўшчыны". Аднак нярэдка гэта мае формы адкрытага плагіяту. Так, калі распавядалася пра старую царкву, якая знаходзіцца на месцы былога Васкрасенскага манастыра, з экранаў тэлевізара практычна давялося пачуць трошкі скарочаны пераклад на рускую мову артыкула пра яе гісторыю з нашай газеты (ён быў надрукаваны ў № 3(12) за 2000 год.). Сапраўднае аўтарства гэтага матэрыялу тымі, хто падрыхтоўваў праграму, было "сціпла" замоўчана. Дарэчы, матэрыял пра былы Васкрасенскі манастыр, як і амаль усе іншыя гістарычныя матэрыялы нашай газеты, падрыхтаваны спецыяльна для яе, грунтуюцца на старых малавядомых дакументах і ў іншых выданнях ніколі не друкаваліся.

Выклікаюць заўвагі і расповяды ў праграме экскурсавода пра старыя месцы Барысава. Акрамя сапраўды цікавых і малавядомых для большасці жыхароў горада фактаў ім дапускаюцца і шэраг недакладнасцей. У прыватнасці, нямала іх было пры распавяданні пра гісторыю Васкрасенскага сабора.

Як кажуць, не памыляецца толькі той, хто нічога не робіць. Таму пры адсутнасці спецыялістаў гістарычныя памылкі на тэлебачанні можна зразумець. Аднак пажадана, каб іх было як мага меней. Больш таго, хацелася б дачакацца больш паважлівага стаўлення на тэлебачанні да аўтарскіх правоў.

На заканчэнне барысаўскаму тэлебачанню, акрамя поспехаў у працы, нельга не пажадаць, каб нясмелыя крокі па звароту да тутэйшай гістарычнай спадчыны сапраўды сталі першымі крокамі па яго пераходу ад чужога па сваёй існасці і зместу да тутэйшага.

*В.Стэфановіч*

# Тутэйшыя Internet - навіны

*Вясна – час абнаўлення і нараджэння новага. Таму мы вырашылі даведацца, што новага "народжана" барысаўцамі ў Інтэрнеце.*

**"Горад Барысаў – неафіцыйны сайт горада" (www.borisovcity.narod.ru).** Старонка ўтрымлівае апошнія навіны аб падзеях у Барысаве (у асноўным ад газеты "Барысаўскія навіны"), артыкулы аб гісторыі горада (аб назвах вуліц, храмах Барысава і наваколля), карту горада і яго фотакарткі. У дадатак маецца розная карысная інфармацыя: расклад руху аўтобусаў і электрацягнікоў, тэлефоны аптэк, вакзалаў і інш. Старонка мае і шмат іншых раздзелаў. На сённяшні час яна з'яўляецца лепшай старонкай аб нашым горадзе.

**"Радыёаматарскі сайт EW2EO" (www.qsl.net/ew2eo) і "Палітра талентаў" (palette.narod.ru)** – дзве старонкі, якія ўтвораны барысаўцам Валерыем Правілавым. Першая з іх будзе карысная тым, для каго водар каніфолі – лепшы водар у свеце, а паяльнік – лепшы сябра. Другі сайт – гэта віртуальная карцінная галерэя. Адной з яе пераваг з'яўляецца тое, што на ёй вы зможаце не толькі паглядзець работы беларускіх майстроў розных жанраў, але і прачытаць некалькі радкоў аб яе ўдзельніках і планах на будучыню.

**WinAll: Усё аб Windows (www.win-all.ru).** Старонка прызначана тым, хто мае жаданне нармальна працаваць з Windows. Гэты сайт цалкам прысвечаны тварэнню Біла Гейтса. Навіны з "аконнага фронту", артыкулы аб "Windows 9x" і "Microsoft Office", розныя хітрыкі, рубрыка "Пытанне – Адказ", рассылка навін. Старонку зрабіў барысавец Дзмітрый Лагвін.

**Хатняя старонка Аляксандра Аляксандравіча Комара (ask.narod.ru).** Звычайная хатняя старонка. Біяграфія аўтара, некія камерцыйныя прапановы, у якіх не заўсёды можна разабрацца.

**Нерэальны свет гурта "Unreal" (unrealgroup.boom.ru).** Старонка ўтворана Яўгенам Лешанка, салістам гэтага гурта. Старонка знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі, але ўжо зараз мае фотакарткі і песні, якія можна праслухаць. Звярнае на сябе ўвагу і арыгінальнасць яе дызайну. У далейшым павінны з'явіцца раздзелы аб гісторыі, планах і сябрах гурта.

**Незалежны Барысаў (ipcborisov.narod.ru).** Старонка прысвечана дзейнасці незалежных арганізацый у Барысаве, іх планах.

**Тэлекампанія "Скіф" (tvbor-12.narod.ru).** Прыклад старонкі, якая не мае ніякай карысці. За апошніх два месяцы тут з'явіўся толькі прэйскурант кошту. Больш на сайце, акрамя прэйскуранта і фотакарткі аўтара старонкі, вы нічога не знойдзеце.

**Горад князя Барыса (rolegame.boom.ru).** Старонка барысаўскага ролевага клуба "Чорны воран". Прысвечана ўсім відам ролевых гульняў і іх распаўсюджанню на Барысаўшчыне. На сённяшні час старонка не размешчана ў Інтэрнеце, але гэта будзе зроблена ў бліжэйшы час.

*А. Шумскі,*
*e-mail: Shurix@pisem.net*

# Як чарку возьмуць – лятаць цягне?

*За тры месяцы 2001 года супрацоўнікамі Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыі раённага аддзела ўнутраных спраў было зафіксавана 5582 парушэнні правіл дарожнага руху, з іх 130 былі здзейснены п'янымі кіроўцамі.*



Як звычай, усе гэтыя здарэнні адбываюцца ў цёмны час сутак і носяць вельмі цяжкі характар як для кіроўцаў, так і для іх аўтамабіляў. Тлумачыцца гэта тым, што дарожна – транспартныя здарэнні ў асноўным адбываюцца альбо на дарозе паміж населенымі пунктамі, альбо на трасе, дзе хуткасць язды абмежавана толькі тэхнічнымі параметрамі аўтамабіля, а патрэбнага кантролю арганізаваць немагчыма.

Як паведаміў нашай газеце начальнік ДАІ Барысаўскага РАУС Герасім Іванавіч Муха, найбольш значнымі здарэннямі апошняга часу былі наступныя.

Першага сакавіка каля 14 гадзін на 13 кіламетры дарогі Барысаў - Мётча жыхар вёскі Вялікая Ухалода на аўтамабілі "Масквіч", кіруючы ёй у нецвярозым стане, выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з аўтамабілем ВАЗ. Вынік здарэння – пераўтварэнне аўтамабіляў у металалом, а кіроўцаў – у калекаў.

Блокбасцерам ці бесцелерам канца 2000 - пачатку 2001 года з'яўляліся паездкі на прыватным аўтамабілі "Таёта" грамадзяніна Н., які пражывае ў Лошніцы. Усё пачалося 12-га ліпеня 2000 года, калі яго затрымалі за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане і без правоў, якіх ён ужо да таго быў пазбаўлены. Потым праз месяц, 18-га жніўня яго зноў затрымалі п'янага без правоў. Былі пададзены дакументы ў суд, які вынес рашэнне аб налажэнні штрафу ў памеры 52.000 рублёў. Гэта, пэўна, дало нейкі эфект, бо калі яго спынілі 16 кастрычніка ён быў без правоў, але... – цвярозы. Упарты кіроўца зноў атрымаў штраф. 11-га лютага грамадзянін Н. у чарговы раз быў спынены нецвярозы, без правоў. І зноў суд і штраф 171.000 руб.

12-га сакавіка грамадзянін Н. традыцыйна нецвярозы без правоў ехаў у цёмны час сутак па роднай Лошніцы. У выніку быў збіты пешаход, які ішоў насустрач аўтамабілю. Пацярпеўшы з вельмі цяжкімі пашкоджаннямі быў шпіталізаваны. "Ліхі" кіроўца з месца здарэння скрыўся. Па гэтаму выпадку была ўзбуджана крымінальная справа, але і яна яго не стрымала. Стрымаў яго грузавік на шашы Брэст - мяжа РФ. На шчасце грамадзяніна Н., яго своечасова ўдалося аддзяліць ад грузавіка і куска жалеза, якое раней з'яўлялася аўтамабілем "Таёта", і даставіць у лякарню з вельмі цяжкімі цялеснымі пашкоджаннямі.

Па меркаванню супрацоўнікаў ДАІ гэты выпадак грамадзяніна Н. таксама не спыніць.

Для рашэння праблем бяспекі руху, і выключэння такіх выпадкаў, трэба павышаць мабільнасць і аператыўнасць руху дзяржаўтаінспектароў. Наяўны аўтапарк не спраўляецца з гэтым. Па словах начальніка ДАІ Барысаўскага РАУС Г.Мухі, часткова паслабіць гэту праблему дапамог былы тутэйшы дэпутат, а зараз намеснік прэм'-ер - міністра РБ Л.Козік. У 2000 годзе ён паспрыяў набыццю для патрэб ДАІ дзвюх аўтамашын (УАЗ і ВАЗ). Але праблему ў цэлым гэта не вырашыла.

*М.Лазар*

# 15 год з Чарнобылем

Напярэдадні 15 – годдзя Чарнобыльскай катастрофы Барысаўскі гарвыканкам зацвердзіў план мерапрыемстваў па сацыяльнай абароне і ахове здароўя жыхароў Барысава, пацярпелых ад аварыі.

У адпаведнасці з гэтым планам на працягу года аддзел выканкама па ўліку і размеркаванню жылля павінен забяспечваць жылымі памяшканнямі грамадзян, якія стаяць на ўліку па паляпшэнню жыллёвых умоў і маюць ільготы па арт. 18 Закона РБ "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых на ЧАЭС".

У красавіку з мясцовага бюджэту павінна была аказваццa аднаразовая матэрыяльная дапамога інвалідам Чарнобыля, а таксама сем'ям, якія страцілі кармільца ў выніку катастрофы.

Аддзелы культуры, інфармацыі, кінапракат з 16 па 26 красавіка праводзілі Тыдзень памяці ахвяр Чарнобыля, у школах, усіх навучальных установах горада праводзіліся спецыяльныя заняткі па чарнобыльскай тэматыцы. Па сумеснаму плану з ГТМА, Цэнтрам па аздараўленню і санаторна – курортнаму лячэнню прадстаўнікі ўлады наведвалі ў красавіку бальніцы, дзіцячыя аздараўленчыя цэнтры, а таксама цэнтры псіхалагічнай рэабілітацыі. Фінансаванне гэтай акцыі таксама ажыццяўляў мясцовы бюджэт.

Гарвыканкам унёс прапановы аб прадстаўленні да дзяржаўных узнагарод за шматгадовую працу і творчы ўклад у рэалізацыю дзяржаўных праграм Рэспублікі Беларусь па перадоленню наступстваў катастрофы на ЧАЭС найбольш актыўных працаўнікоў.

*А.Турко*




Інстытут
ПРАДПРЫМАЛЬНІЦКАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

**праводзіць навучанне па спецыяльнасцях:**

- ✓*Камерцыйная дзейнасць;*
- ✓*Маркетынг;*
- ✓*Эканаміст (дзённая/ завочная форма навучання);*
- ✓*Эканоміка і кіраванне сацыяльна - культурнай сферы;*
- ✓*Эканаміст - менеджэр (дзённая/ завочная форма навучання);*
- ✓*Сучасныя замежныя мовы;*
- ✓*Перакладчык - рэферэнт (дзённая форма навучання);*

**Прыём дакументаў з 15 траўня.**
**Хлопцам на перыяд навучання на дзённым аддзяленні прадстаўляецца адтэрміноўка ад службы ў УС РБ.**
**Выпускніку інстытута выдаецца дзяржаўны дыплом спецыяльнага ўзору.**
**Кошт 700 - 750 у.а. - дзённая форма, 500 у.а. - завочная форма.**



**239-47-67; 239-41-58; 245-76-14; 289-12-64.**

Ліц. № 5 ад 1999 г. МА РБ — Сертыфікат ад 11.04.2000 МА РБ



БЕЛАРУСКІ КАМЕРЦЫЙНЫ ІНСТЫТУТ КІРАВАННЯ

*Адрас: 220033, г. Менск, пр. Партызанскі, 2. Тэл. (017) 226-03-45.*
*Праезд: ст. м. "Пралетарская", аўт.№ 8, 43, 79, трал. № 3, 16, 30, 36, 59, прып. "Фабрыка Камунарка"*

**Прыём:** *навучанне платнае і бясплатнае; вочнае і завочнае; дадатковы дыплом аб другой адукацыі.*



***Увесьчас дзейнічаюць падрыхтоўчыя курсы. Залічэнне здзяйсняецца па выніках субяседавання на наступныя спецыяльнасці і спецыялізацыі:***

| | |
|---|---|
| Э.01.03.00 | "Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве" |
| Э.01.04.00 | "Фінансы і крэдыт" |
| Э.01.07.00 | "Бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт" |
| Э.01.08.00 | "Сусветная эканоміка і міжнародныя эканамічныя стасункі" |
| Э.01.09.00 | "Менеджмэнт" – гэта кіраванне і арганізацыя ва ўсіх сферах дзейнасці |
| Э.01.09.02: | "Менеджмэнт у сферы арганізацыі дзейнасці дзяржаўных і камерцыйных прадпрыемстваў" |
| | "Менеджмэнт у сферы прагназавання і планавання сацыяльна – эканамічнага развіцця рэгіёнаў" |
| | "Менеджмэнт у сферы камерцыйнага дызайну" |
| | "Менеджмэнт у сферы выставачнай і рэкламнай дзейнасці" |
| | "Менеджмэнт у сферы міжнароднага гандлю" |
| Э.01.09.08 | "Кіраванне персаналам прадпрыемстваў і працоўным рэсурсамі" |
| Э.02.02.01 | "Маркетынг у сферы міжнароднага гандлю" |
| Г.09.01.00 | "Правазнаўства" |
| Г.09.01.02 | "Гаспадарка і права" |
| Г.02.05.00 | "Сучасныя замежныя мовы" |
| Г.07.01.00 | "Псіхалогія" |
| Г.07.01.02 | "Сацыяльная псіхалогія" |



***Прыём дакументаў: з 15 сакавіка па 25 жніўня.***
***Даведкі па тэлефоне: (017) 226-03-45***

Ліцэнзія № 54 Міністэрства адукацыі РБ ад 03.02.1995 г., працягнута: Загад Міністра адукацыі РБ ад 09.06.2000 г. № 266, на 5 год.
Сертыфікат дзяржаўнай акрэдытацыі, рэгістрацыйны нумар 20 ад 21.04.1997 г.



Капліца ў Навішчына

# На мяжы Барысаўшчыны

*На самым поўдні Барысаўшчыны ёсць вёска Навішчына. Шмат папярэдніх пакаленняў тутэйшых і не толькі тутэйшых жыхароў пакінулі аб сабе ў гэтых мясцінах нямала слядоў. Мы ўжо пісалі пра паданне, якое тлумачыць паходжанне гэтай і суседніх вёсак, і яшчэ не раз будзем распавядаць пра тамтэйшыя мясціны.*

Аднак у краязнаўчай і іншай літаратуры пра Барысаўшчыну пра тыя мясціны амаль немагчыма сустрэць ніякай інфармацыі. Чаму? Справа ў тым, што наваколлі Навішчына, як і пэўная частка поўдня Барысаўскага раёна, адміністрацыйна да Барысаўшчыны ніколі да XX стагоддзя не належыла. У старажытныя часы тут была ўскраіна Ігуменскага княства. У часы Вялікага Княства Літоўскага гэтыя землі таксама ніколі не падпарадкоўваліся Барысаву. Не ўваходзілі яны ў Барысаўскі павет пры панаванні тут Расійскай імперыі. Толькі ў савецкія часы гэтыя мясіны ўвайшлі ў склад Барысаўскага раёна. Таму ў ранейшых даследчыкаў Барысаўшчыны гэты рэгіён заставаўся па-за ўвагай. Яму ж, як далёкай малалюднай ўскраіне Ігуменшчыны, таксама мала ўвагі ўдзялялі ў мінулым і краязнаўцы суседняга павета.

Усё вышэйсказанае ў поўнай меры датычыцца таксама і гісторыі каталіцкага прыходу ў Навішчына і яго капліцы. Калі ён быў утвораны, зараз вызначыць цяжка. Магчыма, калі паданне пра занаванне вёскі (пра яго наша газета пісала ў № 6(15) за 2000 год – "Загадка Лёзна") грунтуецца на рэальных гістарычных падзеях, што вельмі верагодна, час заснавання прыходу – канец XVII стагоддзя. У тыя часы каталіцкая абшчына ў Навішчына падпарадкоўвалася Дукорскай парафіі (Дукора – раней мястэчка ў Ігуменскім павеце, зараз – вёска ў Пухавіцкім раёне). У другой палове XIX стагоддзя Дукорская парафія касуецца, а капліца ў Навішчына перадаецца ў Барысаўскую парафію.

Капліца, якая існуе на могілках у Навішчына зараз, была закладзена 14 верасня 1905 года жыхаром Шабліншчыны Тамковічам. Для гэтага быў куплены свіран у тамтэйшага пана Дуброўскага. Аднак будаўнічых матэрылаў са свірана было недастаткова. Таму для пабудовы капліцы была дададзена яшчэ дадатковая колькасць бярвенняў.

Самы цяжкі перыяд для капліцы быў падчас так званага ваяўнічага атэізму, калі навокал бажніцы знікалі адна за адной. У гэты час капліца была зачынена. Быў і загад "зверху" знішчыць яе. Тагачаснае тамтэйшае мясцовае кіраўніцтва па нейкіх прычынах яго не здзейсніла, але "на верх" адрапартавала пра выкананне загада.

У наш час капліца перажывае сваё адраджэнне. Ужо не адзін год як адноўлены яе прыход, сама яна адрамантавана. Тут рэгулярна праводзяцца набажэнствы.

Гісторыя капліцы ў Навішчына – толькі маленькі штрышок у маляўнічай карціне – гісторыі тых мясцін. У наваколлях вёскі шмат амаль не кранутых лясоў, якія хаваюць у сабе яшчэ не адну таямніцу. Але гэта ўжо тэмы для іншых расповядаў, багатае поле для працы даследчыкаў нашай мінуўшчыны.

***М.Мацельскі***

# Аўта-мота клуб

У вайсковым гарадку Печы Ігар Лявонаў разам са сваім сябрам Русланам (абодвы байкеры) стварылі свой клуб па рамонту матацыклаў, які назвалі "Аўта-мота клубам". Гісторыя клуба не вельмі вялікая. Спачатку хлопцы звычайна пачалі цікавіцца матацыкламі, прычым больш за ўсё "лёгкімі", а праз некаторы час перайшлі на больш "цяжкія" мадэлі.

Першыя месяцы не было нічога, акрамя сваіх "машын", але праз некалькі тыдняў яны знайшлі першыя інструменты і пэўнае абсталяванне. Потым усё пацякло само сабой далей, і вось зараз хлопцы амаль што адкрылі сваю майстэрню. Зараз Ігар і Руслан могуць зрабіць з амаль любога заезджанага матацыкла сапраўдную "ляльку".

# Наркам-ваўкалак

Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны вайсковыя баталіі ўсё яшчэ не спыняліся: панская Польшча рыхтавалася да новых захопаў іншаземных тэрыторый. Па загаду У. Леніна (Ульянава) Беларусь і Літва былі злучаныя ў Літ.-Бел.ССР (люты—жнівень 1919 г.). У той перыяд ліхалецця вайсковым камісарам горада Барысава прызначаецца І.Л.Бенгер, латыш па нацыянальнасці. Трэба заўважыць, што на гэтай адказнай пасадзе ён вылучаўся асаблівай жорсткасцю: асабіста сам нярэдка расстрэльваў на Батарэях контру ды ... іншы незадаволены савецкімі парадкамі люд, за што, відаць, яго, як бальшавіка-ленінца, сур'ёзна папярэдзілі і перавялі на другасную пасаду ў мястэчка Халопенічы. Зразумела, што ў такіх выпадках многія падобныя ўладалюбцы затым шкодзіць сваім крыўдзіцелям. Прыблізна праз месяц за таварышам Бенгерам прыехалі з Барысава чэкісты, каб арыштаваць яго. Адчуўшы няладнае, былы барысаўскі вайсковы камісар даў дзёру ў лес, дзе ў хуткім часе арганізаваў унушальны антыбальшавіцкі баявы атрад, які часам налічваў да 200 штыкоў. На працягу шэрагу гадоў атаман Бенгер рабіў у акрузе начныя налёты, рэйды, засады, і, калі нехта з камуністаў ці чэкістаў трапляў у ягоныя рукі жывым, то ён выкарыстоўваў да ахвяры асаблівыя катаванні. Калі кола расплаты пачало звужацца, Бенгер пакінуў сваіх "лясных саратнікаў" і знік назаўсёды з гэтых мясцінаў. Можна дапусціць, што ён збег у Латвію.

Такая непрычасаная праўда таго смутнага часу, калі зямля Барысаўшчыны (ды і ўся Беларусь наогул) з'ўлялася па-сутнасці прахадным дваром, своеасаблівым тэатрам вайсковых дзеянняў.

***А.Шустоўскі***

***P.S.*** *Больш падрабязныя звесткі аб Бенгеры можна знайсці ў газеце "Пагоня" ад 3 ліпеня 1997 г. і сярод архіваў беларускага пісьменніка-эмігранта Ю. Віцьбіча (1905—1975 г. ж.).*

# Акцыя "Пазнаем Беларусь!"

Набліжаецца да заканчэння акцыя "Пазнаем Беларусь!", якую арганізавалі рэдакцыя газеты "Гоман Барысаўшчыны" сумесна з турыстычным агенцтвам "Агата – тур". Мэта акцыі - паглыбленне знаёмства з нашай Радзімай – Беларуссю і нашай малой Радзімай – Барысаўшчынай.

Нагадваем, што пераможцаў чакае бясплатная экскурсія па Барысаву і Барысаўшчыне, якая распрацавана спецыяльна для акцыі і прадугледжвае агляд і знаёмства як з вядомымі тутэйшымі гістарычнымі мясцінамі і помнікамі, так і з малавядомымі, але не менш каштоўнымі. Яна прымусіць вас зусім па - іншаму глянуць на гістарычную спадчыну і мінуўшчыну нашага краю!

Для індывідуальнага ўдзелу ў конкурсе неабходна даслаць на адрас рэдакцыі ліст з артыкулам на тэму "Мой Барысаў" (або "Мая вёска"), у якім абгрунтаваць, чаму вам падабаецца наш горад ці якім вы жадаеце яго бачыць у будучыні. Памер тэкста – не болей за палову машынапіснай старонкі. Не забудзьце ў пісьме паведаміць кароткія звесткі пра сябе і свае кантактныя каардынаты.

Калектыўным удзельнікам акцыі можа стаць любы клас, навучальная група і інш., хто на працягу дзеяння акцыі ўдзельнічаў у экскурсіях па Беларусі з турыстычным агенцтвам "Агата – тур". Для калектыўнага ўдзелу ў акцыі неабходна выразаць адзін на групу купон, запоўніць яго і зарэгістраваць ў агенцтве "Агата – тур". Пры кожнай новай экскурсіі запаўняецца новы купон, што павялічвае шанц на выйгрыш. Індывідуальныя пераможцы акцыі вызначаюцца на падставе дасланых матэрыялаў. Калектыўны пераможца вызначаецца на падставе жэрабя зарэгістраваных у агенцтве "Агата – тур" купонаў.

Акцыя працягнута да 20 траўня 2001 года. Вызначэнне пераможцаў адбудзецца 21 траўня ў $17^{00}$ у памяшканні агенцтва «Агата – тур». На яго запрашаюцца прадстаўнікі ўсіх калектыўных удзельнікаў акцыі. Экскурсія пераможцаў адбудзецца 27 траўня.

Купон № ____

на ўдзел у акцыі **"Пазнаем Беларусь!"**

Група (клас) ________________________

Экскурсія ________________________

Дата рэгістрацыі купона "___" __________ 2001 года.

МП

## 900 годдзю Барысава

На юбілей горада няхай замест аўтобусаў пасажыраў перавозяць фурманы. Будзе цікава, калі людзі будуць ехаць у брычцы з сенам.

У 12-й або 13-й гадзіне па горадзе, ад старога да ўскраін новага, будзе праязджаць князь Барыс Усяслававіч са сваёй дружынай. Па ўсім горадзе будуць хадзіць людзі і раздаваць невялікія кнігі пра жыццё горада ці пра гісторыю Барысава.

На кожным старым доме будуць вісець шыльды, на якіх напішуць гісторыю дома, што было тут раней, хто ў ім жыў.

На асфальце можна напісаць словы, напрыклад "Свята горада" або "Барысаву - 900 гадоў", "Дзень нараджэння Барысава" і г.д.

На плошчы мы ўбачым сялянскія хаткі, у якіх будуць прадаваць старажытныя рэчы. Музей можна перанесці на плошчу, дзе і паказваць яго экспазіцыю. Неабходна будзе забараніць ездзіць па горадзе на машынах. Перамяшчацца можна будзе толькі ў брычках.

На базары будуць прадаваць парасят, коней, кароў, трусоў і іншых жывёл. У некаторых крамах можна будзе купіць старыя прылады працы, адзенне і ежу.

Цудоўна было б зняць пра горад невялікі фільм і паказваць яго ў кінатэатрах.

Моладзь апранецца ў старажытныя адзенні і нават тынейджэры будуць так хадзіць па горадзе, як быццам так і трэба.

Абавязкова, каб канцэрты праходзілі і на плошчы, і ў старым горадзе. І абавязкова на беларускай мове.

У гэты дзень, я мару, усе павінны размаўляць на роднай мове. Можа, гэта ўсім спадабаецца, і беларуская мова будзе гучаць заўсёды.

Вось такім я бачу свята горада.

***Г.Кавалёва,***
***політэхнічны ліцэй, 9 клас.***

# Народны тэатр "Відарыс" – цікавейшая старонка 900 – гадовай гісторыі г.Барысава

Пад такой назвай у 12 – ай школе горада прайшло цікавае мерапрыемства, арганізаванае настаўніцай роднай мовы Гаўрусёвай Н.С. і яе вучнямі. Мерапрыемству папярэднічала вялікавая пошукавая праца вучняў і настаўніцы, што вылілася ў падрыхтоўку навуковай працы "Беларускі тэатр ад вытокаў да сучаснасці".

У гэты дзень гасцямі школы сталі артысты тэатра "Відарыс" і галоўны рэжысёр тэатра, былы вучань гэтай школы, Буйко У.А., а таксама кіраўнікі школ горада.

Вучні Гаўрусёвай Н.С. цудоўна апавядалі аб беларускім тэатры ад зараджэння да сённяшняга дня. Артысты "Відарыса" прадэманстравалі свае майстэрства, правялі віктарыну гісторыі тэатра Барысава сярод вучняў.

Напрыканцы хочацца дабавіць, што само свята было наладжана ў народным стылі, а вёў яго сам Несцерка.

***М.Пучыла***

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 - 20, 22 - 25 за 1996 - 2001 гг.)*






**Помнік на перадмостных умацаваннях Барысава, які нагадвае аб тутэйшых падзеях 1812 года.**

У кастрычніку Дунайская армія, якой камандаваў Чычагоў, атрымала ад Кутузава загад зайсці ў тыл напалеонаўскай арміі і адрэзаць ёй шлях адступлення па Бярэзіне. Ужо 16 лістапада яе 35 – тысячнае войска ўступіла ў Менск. Рэшткі тамтэйшага французскага гарнізона адступілі ў Барысаў. У сувязі з тым, што пераправа ў нашым горадзе мела вялікае стратэгічнае значэнне, на яе абарону былі дадаткова накіраваны французскія войскі пад кіраўніцтвам маршала Удзіно, армія Віктора і саюзныя ім польскія войскі, якімі кіраваў Дамброўскі. Разам з Дамброўскім у Барысаў прыбыў кіраўнік адміністрацыі Менскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага Бранікоўскі. Польскія жаўнеры на чале з Бранікоўскім прыбылі ў Барысаў 6-га лістапада і замацаваліся на перадмостных умацаваннях, якія французы не паспелі разбурыць. Вечарам 8-га лістапада да іх далучылася дывізія Дамброўскага. Літаральна следам – за гадзіну да світання 9-га лістапада авангард расійскай арміі – 14-ы егерскі полк, якім кіраваў А.Красоўскі, падышоў да Барысаўскага тэт-дэ-пону.Войска Дамброўскага не чакала такога хуткага падыходу маскоўцаў і не было гатова да абароны. У дадатак да ўсяго вартаўнік прыняў полк Красоўскага за свой атрад, які затрымаўся. Трывога не была ўзнята. Гэта дазволіла расійскаму войску проста і без значных страт авалодаць правым рэдутам. Было гэта каля 7-і гадзін ранку.

Інакш разгортваліся падзеі вакол левага рэдута. Тут 38-ы егерскі полк, якім кіраваў генерал-маёр Энгельгард, сустрэў моцнае супраціўленне. Аднак пасля падыходу 7-га егерскага палка правы рэдут таксама быў захоплены маскоўцамі. Другая лінія ўмацаванняў заставалася за войскамі Дамброўскага. Ім на дапамогу ішлі падмацаванні з поўначы – з раёна вёскі Дымкі і з поўдня – з раёна Гары і Юшкевіч. Але ні адна з тых калон не змагла прабіцца да тэт-дэ-пона. Яны былі спынены рэзервовымі палкамі Ламберта і былі вымушаны адступіць.

Першая спроба расійскага войска захапіць другую лінію абароны прадмостных умацаванняў з дапамогаю 13-га і 38-га егерскіх палкоў выніку не дала. Пры гэтым пад час вайсковых дзеянняў быў паранены Ламберт. Пры другой спробе дадаткова была выкарыстана конна – артылерыйская рота, якой кіраваў палкоўнік Магдэнка. Спачатку з левага рэдута быў праведзены інтэнсіўны абстрэл з гармат войска Дамброўскага. Пры гэтым ён быў настолькі інтэнсіўны, што некалькі ядраў пераляцелі праз Бярэзіну і трапілі ў цэнтр горада, а некалькі нават пераляцелі праз яго. Пасля абстрэлу егерскія палкі, да якіх быліададзены рэзервовыя падраздзяленні, пайшлі ў штыкавую атаку. Войска Дамброўскага каля 3-х гадзін дня было вымушана адступіць праз мост у Барысаў і далей у накірунку Лошніцы. Пры выхадзе з горада каля млына на рацэ Сха яно прадпрыняла спробу выстраіцца ў баявыя шэрагі. Аднак кавалерыя расійскага войска, якая ішла па іх следу, не дала ім гэта зрабіць. Астатняя частка маскоўскага войска, якая не пайшла ўслед за Дамброўскім, занялася ў Барысаве марадзёрствам.

У выніку бою ў Барысаве, які скончыўся каля 16-і гадзін 10 лістапада, расійскае войска згубіла каля 1000 чалавек забітымі і паранеными. У войску Дамброўскага забітых і параненых было каля 2000 чалавек.

*(Працяг будзе)*
*М.Мацельскі*

# Шэрыя Насця і Андрэй - яркія таленты

**Сустракацца з талентам прыемна, спрыяць іх станаўленню -удвая. На гэты раз мы з прыемнасцю знаёмім чытачоў з Шэрымі Насцяй і Андрэем (брат і сястра) з СШ № 24. Да друку матэрыял падрыхтаваны Людмілай Мікалаеўнай Лапянок.**

*Насця - цудоўная і таленавітая дзяўчына, чалавек паэтычнай душы, з добрым і спагадлівым сэрцам, прыгажуня, якая зачароўвае лірычнымі мелодыямі сваіх песень і высокім майстэрствам музычнага выканання. Свой першы верш напісала ў 11 год. Вершаў напісала многа, але друкаваць іх не спяшаецца. У будучым вельмі хоча спяваць, працаваць у тэатры, дарыць людзям часцінку свайго сэрца, далучаць іх да культурнага жыцця.*

*Добра атрымліваюцца ў Насці і празаічныя творы, дзе ўжо зараз відаць рука майстра.*

*Шэры Андрэй - родны брат Насці. Вельмі таленавіты чалавек. З захапленнем піша прозу. Падабаецца ствараць уласныя тэксты.*

*Са школьных прадметаў перавагу аддае матэматыцы, беларускай мове і літаратуры. Захапляецца гістарычнай літаратурай і радыётэхнікай. Любіць жывёл, асабліва сабак.*

### Чорная бяда

У кожным з нас жыве смутак і боль за ўсіх, хто пацярпеў ад Чарнобыльскай бяды.

Не адзін раз чалавек задаваўся пытаннем: чаму чалавек сам сабе шкодзіць? Чаму большасць зла, што жыве ў свеце, ствараe ён сам? Не шануе чалавек тое, што дадзена яму Богам. Усё навокал хоча ён перайначыць, перарабіць на свой лад. Але не заўсёды робіць гэта разумна, прадумана. У выніку - пакутуе прырода, пакутуе і сам чалавек.

Вельмі часта па радыё і тэлебачанні мы чуем: "Чалавек выратуе Свет". Але чаму ж тады ўсё больш становіцца на нашай Зямлі небяспечных аб'ектаў, страшнай зброі? Знішчаць заўсёды лягчэй, чым ствараць.

Так здарылася і ў Чарнобылі. Не дагледжана, не прадумана, не растлумачана, і - жах, боль, пакуты. Загублена шмат жыццяў. Забруджаны лясы, палі, рэкі, паветра. Хто адкажа за смерць і гвалт над прыродай?

Яшчэ вельмі доўга мы будзем помніць красавік 1986 года. А напамінам нам будуць тыя ягады, якія нельга есці, тыя рэкі і азёры, у якіх нельга купацца і лавіць рыбу, дажджы, якія нясуць смерць...

Мама казала Арцёму:
"Сынок, не гуляй пад дажджом.
Дождж зараз грозны і злосны.
Лепей ідзі, сыне, у дом."

Але жартам маломy дзіцяці
Словы здаліся тыя,
Што клапатлівая маці
Казала яму з ганка дому.

"Мама! Якая слаўнота!
Як добра пад цёплым дажджом!
Хутка над дахам вясёлка
Ўспыхне чароўным святлом!"

Пакінула дом той шчасце,
Сумна ў тым зараз доме.
Зараз Арцёмка ў палаце,
Маці заве ён сваю:

"Выратуй, мама, прашу я!
Выратуй! Жыць я хачу!
Болей ніколі не буду
Злоснаму верыць дажджу!"

Б'ецца ў беднае маці
Думак журботных ніць:
"Як жа з хворым сынам
Да новых дажджоў дажыць..."

### Ягады збіраюцца на баль, альбо Згадкі пасля наведвання сонечнай палянкі

Быў цёплы ліпеньскі дзянёк. Ярка свяціла сонейка, а рэдкія аблачынкі нерухома адпачывалі на блакітным небе. Ветрык знік некуды яшчэ з раніцы, таму вакол панавала цішыня.

Але толькі не на лясной паляне. Тут адбываліся вялікія падзеі: ягады збіраліся на свой традыцыйны баль, каб паказаць сваё рознакаляровае ўбранне, сваю прыгажосць, каб проста павесяліцца.

Шчаслівы той, хто быў на паляне ў гэты час. Усе ягадкі адхінулі свае зялёныя лісточкі і папраўлялі бальныя строі. Здавалася, што на зялёным дыване параскіданы чырвоныя, барвовыя, чорныя, сінія і яшчэ шмат якія бусінкі.

Маленькая сунічка Зорачка таксама хацела паглядзець на гэта відовішча. Але туды пускалі толькі дарослых. Зорачка падышла да сваёй матулі і спытала:

- Матуля, ці можна мне пайсці з табой? Я ўжо амаль вырасла, стала прыгожай і пачынаю выспяваць.

Але матуля сказала:

- Не, Зорачка. Твой час красавання яшчэ не настаў. Навошта спяшацца? Вось калі станеш зусім дараслай і спелай, тады і ты трапіш на баль і зачаруеш усіх сваёй красой.

Зорачка вельмі расхвалявалася, але больш не пярэчыла матулі. Яна цярпліва чакала свайго часу, падстаўляючы пад сонечныя прамяні то адзін, то другі бачок.

# Як жабянё абедала



Не ведаю, як каму, а мне дык з бацькамі пашанцавала - яны ў мяне вялікія аматары бавіць час з вудамі ды грыбнымі кошыкамі. І цераз гэта шмат цікавага ад іх пачуць можна. Во хаця б гісторыю пра тое, як матуля жабянё частавала.

Трэба сказаць, што няма для маіх старых лепшай рыбалкі, чымсьці на рэках, дзе гадаваліся - Бярэзіне, Плісе ды Вушы. Але ж доўгія гады працавалі яны далёка ад радзімы на шахце ў Кузбасе, які славуты шматлікімі штучнымі сажалкамі. Вось і цягне іх часам па сібірскай звычцы трошкі карасікаў палавіць. Ну хаця б на той невялічкай сажалцы, што ляжыць ў лагчыне за Глівінам, ля бярэзінскай шашы. Нельга сказаць, што карась там багаты, але ці толькі ў здабычы асалода для сапраўднага рыбака.

Было гэта ў час, калі карась кашы не хацеў, але з поспехам ішоў на чарвяка. Сядзіць матуля на беразе і за паплаўком сочыць. Але ж і карасік трапіўся не дурны - так і гэтак чарвяка смокча, а добра ўхапіцца не спяшаецца. Вырашыла маці чарвяка замяніць на больш жвавага ды смачнага. А выкарыстанага кінула ў бок вады. І тут нібыта зялёная маланка мільганула між ботам матуліным і сажалкаю. Малое зялёнае жабянё, рухаючы сківіцамі, уселася ля матулі і ў вочы той утаропілася. "Што, яшчэ чарвяка хочаш?" - пытаецца кабета. А тое ў адказ - скок проста на бот і яшчэ больш нахабна пазірае. Закінула маці вуду, потым і для госцейкі чарвячка вылучыла. Спрытна схапіла жабка падарунак, але чарвячок не малы - сярэдзінка ў роціку, а канцы вісяць. Хуценька-хуценька дзвюма ручкамі-лапкамі запіхала тыя канцы ў роцік, праглынула і далей глядзіць-просіць. "Яшчэ?" - пытаецца матуля. "Так!" - адказваюць вочкі-гузікі. "Бяры!" - трэці чарвячок схаваўся ў шырокім роціку. Зноў глядзіць дапытліва і з бота не злазіць. Тут матуля зацікавілася, колькі ж гэтая істота можа з'есці? І пачала кідаць чарвякоў аднаго за другім, нават на рыбу забылася.

Дзесьці на дзесятым экземпляры пачуліся крокі - набліжаўся бацька. Жабянё жвава з бота скок ды ў сажалку. Села і з вады за старымі назірае. Распавяла маці пра сваю прыгоду, пасмяяліся, і бацька назад пашыбаваў. Толькі ён адышоўся, жабянё зноў на бот ускочыла, глядзіць у вочы, патрабуе працягу балю. Пачалі зноў кармініца...

Калі вы думаеце, што гэтая малеча з'ела аж дваццаць чарвякоў - то глыбока памыляецеся. Наша сяброўка - не абжора. Пасля дзевятнаццатага чарвяка яна сказала: "Досыць, дзякуй!". Паважна, няспешна злезла з бота і пашлёпала да вады, дзе залегла пераварваць абед, здабыты дзякуючы выдатнай смеласці і вынаходлівасці.

*Е.Граковіч*

# Футбольны агляд

## Пачнем спачатку

11 красавіка пачаўся чарговы чэмпіянат Беларусі па футболу. Для барысаўскай каманды гэта чацвёрты сезон у вышэйшай лізе і шосты ў першынстве незалежнай Беларусі. Звернемся ў гісторыю выступлення БАТЭ за гэты час.

1996 год - 2-я ліга (I месца);
1997 год – 1-я ліга (II месца);
1998 год – вышэйшая ліга (II месца);
1999 год – вышэйшая ліга (I месца);
2000 год – вышэйшая ліга (III месца).

З выступленняў каманды бачна, што яна не апускаецца ніжэй трэцяга месца. Будзем спадзявацца, што гэта традыцыя сёлета не будзе парушана. Аднак паўтарыць у гэтым сезоне папярэднія вынікі будзе значна складаней.

Зараз прааналізуем першыя матчы. Першынство Беларусі:

**Гомель – БАТЭ, 0:1** (Лагун);
**БАТЭ – Дынама (Бт)**, 2:1 (Ганчарык, Бага);
**Нафтан – Дэвон – БАТЭ, 1:1** (Кутузаў);

Кубак ¼ фінала:

**Славія – БАТЭ, 0:2** (Лагун, Грыгораў);
**БАТЭ – Славія, 1:3** (Кутузаў).

У першынстве былі атрыманы перамогі над камандамі, якія наўрад ці ўвойдуць нават у пяцёрку мацнейшых па заканчэнні сезона, Барысаўцы ў гасцях не змаглі атрымаць перамогу над камандай Нафтан – Дэвон - камандай, якая добра калі ўтрымаецца ў вышэйшай лізе на наступны сезон.

Аднак, нягледзячы ні на што, БАТЭ знаходзіцца зверху турнірнай табліцы, а пераможцоў не судзяць. У кубку Беларусі БАТЭ ва ўпартай барацьбе саступілі Славіі з Мазыра. Славія трапіла ў паўфінал з-за большай колькасці мячоў, што забілі мозырцы ў Барысаве.

*С.Чарнуха*

## Хто што мае

З гэтага нумара мы пачынаем інфармаваць чытачоў пра вынікі выступлення кожнага іграка БАТЭ за клуб. Сёння прыводзяцца вынікі за красавік.

| **Брамнікі** | **Г** | **П/М** | **П** | **У** | |
|---|---|---|---|---|---|
| Аляксандр Федаровіч | 1 | 1 | - | - | |
| Юры Жыўноў | 2 | 1 | - | - | |
| **Абаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Уладзімір Нявінскі | 3 | - | - | - | - |
| Генадзь Мардас | 3 | - | - | - | - |
| Віталь Рагожкін | 3 | - | 2 | - | - |
| Сяргей Кузняцоў | 1 | - | - | - | - |
| **Паўабаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Аляксандр Лісоўскі | 1 | - | - | - | |
| Яўген Лашанкоў | 3 | - | 1 | 1 | - |
| Леанід Лагун | 3 | 1 | - | - | - |
| Аляксей Бага | 3 | 1 | - | 1 | - |
| Сяргей Міронччык | 3 | - | - | - | - |
| Аляксандр Цярэнцеў | 3 | - | - | - | - |
| **Нападнікі** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Віталь Кузняцоў | 3 | 1 | - | - | - |
| Арцём Ганчарык | 3 | - | - | - | - |
| Уладзімір Таран | 1 | - | - | - | - |
| Павел Бяганскі | 2 | - | - | - | - |
| Вячаслаў Грыгораў | 2 | - | - | - | - |

**Г** –гульні, **П/М** – прапушчана мячоў, **З/М** – забіта мячоў, **Пс** – пасы, **П** – папярэджанні, **У** – удаленні.

## Веснавыя разборкі

Згуляныя гульні адзінаццатага чэмпіянату Беларусі па футболу не прынесьлі пакуль ашаламляльных вынікаў і вялікай колькасці галоў (за выключэннем мазырскай "Славіі"), а хутчэй наадварот, затое даставілі вялікае задавальненне барысаўскім заўзятарам.

Шчыра кажучы, не вельмі верылася, што суперадноўлёнае БАТЭ так ліха распачне чэмпіянат. Канешне, куранят па восені падлічваюць, аднак пакуль навабранцы разам з аксакаламі барысаўскага клуба апраўдваюць давер галоўнага трэнера і сродкі, выдаткаваныя за іх кіраўніцтвам. Прыемна і тое, што Юры Пунтус зрабіў стаўку на маладых і менавіта беларускіх футбалістаў. Будзем спадзявацца, што ён не памыліўся. А пакуль больш актыўна гуляюць, аддаюць галявыя пасы і забіваюць "стараслужачыя" віцэчэмпіёна. У сувязі з гэтым нельга пакінуць па-за ўвагай Рагожкіна-Міронччыка-Ганчарыка, якія актыўна гаспадараць на правым флангзе, Лашанкова-Багу, якія, у сваю чаргу, паспяхова выконваюць свае паўабаронча-наступальныя функцыі, а таксама левафлангавую пару Нявінскі-Лагун.

Надае гонару нашаму клубу й яшчэ адна абставіна: на прызы "Прэсбола", фірмовай крамы "PUMA", сумеснага прадпрыемства "Спортпраект-Інфа" прэтэндуюць Федаровіч і Жыўноў як "самыя сухія варатары"; Ганчарык і Рагожкін як "лепшыя ігракі"; Рагожкін як "самы карысны" па сыстэме "гол+пас".

Мне застаецца толькі павіншаваць вас, дарагія заўзятары, з паспяховым стартам БАТЭ, а апошняму пажадаць ні пуху ні пер'я ў настапных бітвах.

*К.Кавальчук*

# Рыхтуй сані летам, а футра яшчэ раней...

*(Заканчэнн,пачатак у № 4(25))*

Скураныя вырабы таксама патрабуюць пільнага догляду. Выдаленне плям са скуры вельмі цяжкая справа, таму што нельга выкарыстоўваць плямавыводзячыя сродкі. Моцнасць афарбавання вельмі малая і можа быць "зрыў" колеру. Свежыя плямы з кажуха можна зняць шліфавальнай шкуркай, латуннай шчоткай, "ласцікам", гумовай шчоткай. Свежыя тлушчавыя плямы выдаляюцца, калі пацерці забруджанае месца злёгку зачарсцвелым хлебам. Калі пры выдаленні плямаў усё ж такі атрымалася пасвятленне афарбавання, то гэта месца і вокал яго трэба проста працерці замшавым рыззём да зроўнівання афарбавання. Другім разам вырабы злёгку дэфармуюцца (загінаюцца барты, шліцы і г.д.). Гэты дэфект можна выдаліць, адпрасаваўшы дэфармаваныя месцы (не вышэй 100 – 110). Ні ў якім выпадку нельга змочваць скураныя вырабы перад прасаваннем.

І скураныя, і футравыя паліто, перш чым захаваць, абавязкова прасушыце, ачысціце ад пылу. Рэчы з вельмі каштоўных футраў сушаць у памяшканні, на скразняку, з менш каштоўных – на паветры, але ў цяньку. Скураныя рэчы таксама нельга сушыць на сонцы. Скура агрубее, можа патрэскацца.

У шафу, дзе будуць захоўвацца рэчы, пакладзіце высушаныя скуркі апельсінаў, тытунёвае лісце, лісце герані або другія сродкі ад молі.

Ну вось мы і падрыхтаваліся да наступнай зімы. А цяпер давайце атрымліваць асалоду ад цяпла, сонейка і вясны. Добрага вам настрою!

*Н.Кавалёва,*
*канструктар - мадэльер*

"Гоман Барысаўшчыны" працягвае друкаваць рэкламу і прыватныя аб'явы. Кошт аднаго слова прыватнай аб'явы пры звычайным шрыфце 40 рублёў, пры выдзяленні аб'явы - 50 руб. Рэдакцыя пакідае за сабою права друку абвестак.

Нагадваем, што кошт 1 см² для блочнай рэкламы ў нашай газеце 120 рублёў (з падаткам на дабаўленую вартасць). Кошт 1 см² рэкламы на першай старонцы 198 рублёў (з ПДВ).

Усе аб'явы і рэклама друкуюцца выключна па – беларуску.
**Даведкі па тэлефоне 3-94-68.**

## Прыватныя абвесткі

### Патрабуюцца

• Швачкі і закройшчыкі, т. 5-54-33

### Запрашаюцца

• Лядзішчанскі гарнізонны дом афіцэраў запрашае на гурткі: бальных танцаў, музычнага аддзялення фартэпіяна, 3-82-21

### Падзякі

• Лабачоў В.Г. інвалід Вялікай Айчыннай вайны выражае падзяку дырэктару 12 школы Г.М.Ткачовай, завучу І.В.Кірык, сакратару – машыністцы Л.Л.Батраковай за аказваемыя дапамогу і павагу і добрае выхаванне падрастаючага пакалення

Турыстычнае агенцтва **Багіра**
☎ 3-52-61, 5-48-45

***Экскурсіі па Беларусі:***
Менск, Полацак, Навагрworld, Жыровіцы, Віцебск, Брэст, Крэва - Гальшаны і інш.
***Аднадзённыя туры:***
Вільнюс, Варшава, Кракаў, Смаленск
***Рамантычныя выхадныя:***
Вільнюс, Кракаў,Мікалайкі (аквапарк)
***Візы:*** Літва, Польшча, Латвія, Чэхія

**Нізкія кошты. Скідкі для груп**

Ліц. 37 (17.07.00 – 16.07.05) МС і Т РБ

БАРЫСАЎ
Барысаўскі занальны
**турыстычны клуб**
*прапануе:*

**Аўтобус для турысцкіх паездак (53 месцы; 42 месцы з відэа)**
✓ *у тэатры і цыркі г.Менска;*
✓ *Нясвіж, Мір, Наваградак, Полацак, Брэст;*
✓ *Жыровіцкі манастыр;*
✓ *Смаленск, Масква, С-Пецярбург.*

Разгледзім і ўсе іншыя Вашы прапановы

Тэл. **6-43-03**
Тэл./факс **6-58-88**
Вул. **Чапаева, 29**

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

**Купон для бясплатных прыватных абвестак**

Рубрыка (куплю, прадам ці інш.) ____________
Тэкст ____________
____________
____________
Тэлефон ________ Прозвішча ____________
Адрас ____________
Пашпарт ______ № ____________

*Аб'явы без тэлефона і ўказання пашпартных дадзеных не прымаюцца*
***Купон дасылайце на адрас:* 222120, а/я 43, Барысаў-1**

*Да ўвагі моладзі і ўсіх тых, хто выбірае прафесію!*



*У жыцці кожнага чалавека гэта складаны і адказны крок, ад якога будзе залежыць уся яго далейшая дзейнасць. Ці знаёмы вы з разнастайным светам прафесій? Ці дазваляюць вашы здольнасці і магчымасці авалодаць адной з іх?*

*Адказы на гэтыя і іншыя пытанні вы знойдзеце ў прафкансультацыйным пункце Барысаўскага рэгіянальнага цэнтра занятасці насельніцтва. Дасведчаныя прафкансультанты дапамогуць вам зрабіць правільны выбар.*



***Да вашых паслуг:***
✓ *банк дадзеных па навучальных установах нашай рэспублікі;*
✓ *поўнае апісанне больш чым 100 прафесій (пасад), якое ўключае ў сябе наступную інфармацыю: характарыстыку прафесіі (пасады), змест выконваемай працы, патрабаванні, што прад'яўляюцца да асобаў, адукацыі, умовы і перспектывы навучання і работы, дадатковая інфармацыя;*
✓ *кароткае апісанне 200 прафесій (пасад);*
✓ *больш чым 50 відыяфільмаў па розных спецыяльнасцях.*



***Вы зможаце:***
✓ *самастойна вызначыць свае прафесійныя здольнасці, інтарэсы і схільнасці, якія могуць садзейнічаць вашаму поспеху ў навучанні і працы;*
✓ *абмеркаваць з прафкансультантам праблемы і планы выбару прафесіі;*
✓ *атрымаць інфармацыю аб прафесіях, спецыяльнасцях, навучальных установах, аб становішчы на рынку працы ў сённяшні час;*
✓ *паглядзець відыяфільм аб прафесіях.*

**Наш адрас: г.Барысаў, вул. 8 Сакавіка, 1.**
**Тэлефоны для даведак: 3-92-32, 3-92-22. Рэжым работы; панядзелак – пятніца – $8^{00}$ – $13^{00}$, $14^{00}$ – $17^{00}$. Выхадныя дні – субота, нядзеля.**

